# ІСКРА

## АДНАДНЁЎКА



Вільня, Нядзеля, 31-га траўня 1925 г.

## Ад лятуценьняў—да дзела.

У 1904 годзе Бацька сучаснага адраджэнскага руху сярод беларусаў і вядомы павадыр беларускага народу, с. п. Іван Луцкевіч быў на зьезьдзе рэвалюцыйных арганізацыяў усіх нацыянальнасьцяў Расеі, як прадстаўнік Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады.

Зьезд адбываўся ў Фінляндыі. І бадай ці ня першы раз рэвалюцыянеры паняволеных царскай Расеяй народаў зыйшліся разам з расейскімі рэвалюцыянерамі радзіць супольна аб тым, як разьбіць путы, у якіх трымалі маскоўскія цары і свой і чужыя народы.

На зьезд прыехалі і замежныя госьці: прадстаўнікі ірляндзкіх рэвалюцыянераў (сінн-фэйнэраў). Гэтыя сыны ірляндзкага сялянскага народу слухалі з вялікім зацікаўленьнем аповесьці беларускага дэлегата аб такім жа мужыцкім народзе беларускім, таксама паняволеным, як ірляндзкі. І з шчырым спогадам аднясьліся яны да беларускіх лятуценьняў аб волі і зямлі. А на знак гэтага спогаду далі беларускаму прадстаўніку сваю нацыянальную адзнаку—зялёны лісток канюшыны, ды ў хуткім часе пераслалі на рукі Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады невялікую грашавую дапамогу.

Гэта было 20 з лішкам гадоў назад, калі і мы і ірляндцы йшчэ толькі *лятуцелі* аб сваім нацыянальным адраджэньні і вызваленьні. І вось сяньня значная частка гэтых лятуценьняў *сталася дзелам*: істнуе самастойная Ірляндыя ў складзе Брытанскае Імпэрыі, істнуе і самастойная Беларусь у складзе Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік. Гэта факты, якіх гісторыя перачыркнуць ня можа. Недасяжнае—зьдзейсьнілася!

Але тая жывая сувязь, якая тады — на тайным зьезьдзе ў Фінляндыі — завязалася між прадстаўнікамі двух сялянскіх народаў—народаў мучанікаў, не аслабела й тады, калі абодва яны пачалі вызваляцца з няволі. Наадварот, іменна цяпер і выявілася ў поўнай меры зацікаўленасьць народу ірляндзкага да народу беларускага.

Вестку аб гэтым мы чарпаем, як гэта ні дзіўна, з варожае нам крыніцы: з страніц эндэцкае часопісі „Gaz. Warsz.“:

Пад іранічным загалоўкам: „Ірляндыя і.... Беларусь“, эндэцкі орган з няўкрыванай злоснасьцяй піша:

„Урад вольнае ірляндзкае дзяржавы зацікавіўся неўспадзеўкі—Беларусяй. Як наказуюць з Менску, народны камісар земляробства Радавае Беларусі атрымаў ад ірляндзкага міністэрства земляробства прапазіцыю наладзіць зносіны дзеля ўзаемнага азнаямленьня з палажэньнем сельскае гаспадаркі абедзьвюх дзяржаў. „Наркамзем“ прыступіў да падгатоўкі для Ірляндыі спэцыяльных асьведамляючых матэрыялаў аб Беларусі“.

Напэўна рэдакцыя „Gaz. Warsz.“ і ня думала аб тым, якую вагу мае для нас гэтая вестка. Бо-ж, як бачым, не „неўспадзеўкі“ зацікавілася Ірляндыя Беларусяй, бо сувязь, завязаўшаяся ў 1904 годзе, ня спынялася ўвесь час, бо ірляндзкія і беларускія газэты ня раз—асабліва ў пачатку сусьветнае вайны—давалі весткі ўзаемна аб сабе, як-быццам прачуваючы, што ў вялізарным змаганьні дзяржаўных волатаў сьвету выплыве паверх і справа ірляндзкая, і справа беларуская.

Ды так яно і сталася. І вось адным з першых крокаў ірляндзкага ўраду зьяўляецца ўзнаўленьне—*ўжо адкрыта і афіцыяльна*—тэй старой ідэйнай сувязі, што некалі ў *падпольлі* завязалася між беларускімі і ірляндзкімі барацьбістамі за волю сялянскіх масаў, за нацыянальнае адраджэньне, за дзяржаўны ідэал.

## 20-лецьце паэтыцкае працы Янкі Купалы.

15 гэтага мая ў Менску, дзе жыве найвялікшы беларускі паэт сучаснасьці Янка Купала, адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 20-летняга юбілею яго паэтыцкае творчасьці.

Беларуская прэса (хоць і разгромленая) і беларускае грамадзянства ў Вільні маняцца ў найбліжэйшым часе далучыцца да гэтага сьвяткаваньня. Мы з свайго боку шлем нашаму песьняру гарачае прывітаньне і пажаданьне далейшага расьцьвіту яго нае творчасьці, якая ўвяла беларускую адраджэнскую літэратуру на сусьветны Парнас.



Янка Купала.

## Адстаўка п. Тугутта.

Страціўшы сваё некалі добрае імя недастойным фліртам з чорнай рэакцыяй, п. **Тугутт урэшце запраўды падаўся ў адстаўку** — пад націскам сваей новаўтворанай партыі („Partja Pracy“), што адкалолася ад „Wyzwolenia“, не згаджаючыся на падзел панскіх абшараў бяз выкупу.

У сувязі з гэтай адстаўкай партыя п. Тугутта ў сваей дэкларацыі дае гэткі абраз палажэньня ў Польшчы:

„Стан гаспадаркі дзяржавы і эканамічнае палажэньне працоўных масаў, замест паволі папраўляцца, пагаршаецца і сяньня ўжо пераступае граніцы нэндзы“. Але ўрад ня ўмее знайсьці выхаду з гэтага палажэньня, патураючы толькі заможным элемэнтам. Дык адказнасьці за палітыку ўраду партыя ня хоча браць на сябе і адклікае свайго сябра, п. Тугутта, з складу міністэрства.

Характэрна, што выхад п. Тугутта адбыўся пасьля яго падарожы па Заходняй Беларусі дзеля азнаямленьня іменна: з эканамічным жыцьцём „Крэсаў“...

Адстаўка п. Тугутта ўрэшце паложыць канец тэй няяснасьці, якая стварылася ў адносінах да ўраду п. Грабскага: палітыка яго—буржуазна-рэакцыйная, але яе прыкрываў сваім дэмакратычным іменьнем п. Тугутт.

Мы з свайго боку мусім адзначыць характэрны факт: кожын прыезд п. Тугутта, як міністра, у Вільню, абходзіўся беларускаму грамадзянству вельмі дорага: улада ці то ў часе пабыту п. Тугутта ў Вільні, ці ўраз пасьля яго выезду зачыняла беларускія народныя газэты. Ці гэта выпадкова рабілася, ці мо' была тут глыбейшая, хоць укрытая, сувязь?!...

У сувязі з адстаўкай п. Тугутта, прынятай ужо Прэзыдэнтам, маюць адбыцца значныя зьмены ў складзе габінэту п. Грабскага.

## „Рэформа рольна“ на „Крэсах“.

„Chłopski Sztandar“ („Сялянскі Сьцяг“ вызваленца пасла Путка) дае вельмі цікавыя даныя аб тым, каго ашчасьлівіла так-званая „roforma rolna“ у нашай Віленшчыне.

„Да студзеня 1923 г. на абшары Віленшчыны дадзены вайсковым асаднікам 64 надзелы.

Хто-ж гэтыя шчасьліўцы, — бо некаторыя з іх атрымалі аж 340 маргоў!?

**А вось хто: 4 генаралы, 7 палкоўнікаў, 6 маёраў, 10 капітанаў, 21 паручнік, 10 сяржантаў (пераважна — канцылярыстаў)** і ўрэшце — **аж 3 жаўнеры!**

Апрача гэтага — у іншых „часьцях Польшчы“ вельмі смачныя „ośrodki“ выпалі на долю бедных маларольных і бязрольных „хлебаробаў“: **пану Раману Дмовскаму** (правадыру эндэцыі), **генар. Галеру** (230 маргоў), **ген. Врочыньскаму, ген. Сікорскаму, цэламу раду міністраў** — быўшых і цяперашніх, **вышэйшым урадоўцам міністэрства** „Reform Rolnych“ і г. д...

Падаючы гэтыя весткі—пад міла-жартлівым загалоўкаа „Curiosa„ („Цікавае“...) „Robotnik“ чамусьці прапускае сярод гэтых генаралаў і самага **бацьку ваеннага асадніцтва на „ўкаханых Крэсах“—п. Маршалка Язэпа Пілсудскага** (ня кажучы ўжо аб **ген. Желіговскім**), які таксама атрымаў добры „пралетарскі надзел“ у Віленшчыне. Гэты надзел п. Пілсудскі, як сам ён заяўляў у прэсе, „падараваў на пасаг“ сваей маленькай дочцы, якая гэткім чынам і павінна лічыцца цяпер у лічбе польскіх „вайсковых асаднікаў“ на Крэсах“.

Каму—„цікава, а каму ад гэтай „цікавасьці“—галадуха!

## Справа нямецкай прапазіцыі.

Нямецкая прапазіцыя Антаньце — аб забясьчаньні супольнай умовай францускa - бельгійска-нямецкай граніцы—дагэтуль выклікае споры і спрэчкі паміж Англіяй, Францыяй і Італіяй.

Як ведама, Нямеччына гатова гарантаваць з свайго боку нязьменнасьць сваей заходняй граніцы, але пытаньне аб усходняй (з Польшчай) пакідае зусім адкрытым... Тачней: Нямеччына маніцца запрапанаваць перагледзець гэтую граніцу, на падставе арт. 19 статуту Лігі Народаў — пасьля ўваходу немцаў у склад Лігі.

Англія адразу станула на старане гэтай нямецкай прапазіцыі і ўсё мацней падтрымоўвае яе перад Францыяй, якая пакуль-што яшчэ моцна ўпіраецца, бо ня хоча здрадзіць сваю саюзьніцу Польшчу.

Гэтая спрэчка цягнецца ўжо некалькі месяцаў, і дагэтуль Нямеччына ня мае яшчэ адказу на сваю прапазіцыю. У сувязі з гэтым адкладаецца паседжаньне Рады Паслоў, якая мае выслаць Нямеччыне ноту з адказам

Цяпер Англія, карыстаючыся мароккскімі клапотамі Францыі, націскае на яе ўсё мацней. Справа цяпер стаіць быццам так, што **неўпамінаньне** (ў дагаворы аб бясьпечнасьці) аб нямецка-польскай граніцы павінна мець сілу **прынцыповай згоды** Антанты на перагляд і папраўку нямецка-польскай граніцы—на моцы 19 арт. статуту Лігі. Дык, відаць, уся справа ня толькі пагоршылася для „нятыкальнасьці“ польска-нямецкай граніцы фармальна, але неяк **пасунулася наперад і фактычна**, бо Францыя ўжо вядзе перагаворы з Англіяй аб тым, ці дазваляе арт. 19 статуту Лігі наагул **перагляд**аць граніцы—ці не.

Як ведама, Нямеччына дамагаецца прынцыповага прызнаньня гэтага права, а навет і большага: бо канкрэтнай згоды на перадачу справы перагляду граніцы з Польшчай арбітражу (палюбоўнаму суду).

Наскольki далёка зайшла гэтая справа, на сколькі высьветлілася небясьпека „няўступчывасьці Францыі дамаганьням Нямеччыны і націск Англіі, відаць з таго, што ў Парыж экстрэнна выехаў і сядзіць там—„праездам у Амэрыку“ (?)—польскі міністар замежных спраў Скшыньскі, які вучыць і страшыць францускі ўрад, каб той „у імя бясьпечнасьці Францыі (?) падтрымліваў... інтарэсы Польшчы“ (!).

## „Пігулкі ад зямлітрасеньня“.

*Міністар асьветы аб польскай моладзі і польскай школе.*

На паседжаньні асьветнай камісіі Сойму міністар Ст. Грабскі зрабіў даклад аб сваей падарожы ў Вільню ў справе бомбаў і страляніны ў гімназіі Лелевэля.

Міністар сцьвярдзіў, што ў Польшчы, а асаблівв ў Вільні, істнуе шмат розных тайных арганізацыяў сярод польскай школьнай моладзі. «Адны з гэтых арганізацыяў маюць мэтай ужываньне жыцьця, ці, каротка кажучы, распусту („Лігі вольнай любві“!); другія арганізацыі — кшталтам «рыцараў вызваленьня ад Бога», ці царквы, ці ад бацькоў,..

Усё гэта міністар лічыць астаткамі даўных расейскіх часоў, ці новых бальшавіцкіх уплываў.

«Ня тое страшна,—казаў п. міністар, — што здарыўся гэткі выбух: гэткі выпадак можа мець мейсца заўсёды і ўсюды (?) (навет у Баўгарыі); але страшна тое, што на магілы спраўцаў замаху... пасыпаліся кветкі, і што па месьце былі расклеены адозвы, што гэтак трэба зрабіць у кожнай школе...; страшна тое, што з спраўцаў замаху зрабілі герояў (як партыйныя келегі пана міністра—з забойцы прэзыд. Нарутовіча)...

Паводле асабістага дасьледу міністра, стан узгадаваньня дзяцей у Вільні—дрэнны... Між школьнікамі і школай з яе кіраўнікамі ня толькі няма сувязі, але, наадварот, істнуе выразны антаганізм (варожасьць)... Вучні, вучыцялі і сям'я — асобныя, варожыя ўзаемна лагеры...

Якія-ж срэдзтвы запрапанаваў п. міністар дзеля лячэньня гэтае запраўды-ж сьмяротнае хваробы?

«Курсы з матэматыкі, літэратуры і гісторыі будуць зьменшаны, а ў мэтодыцы будзе зроблены націск на індывідуальнае трактаваньне старшых вучняў“.

Запраўды-ж, гэта — такія самыя „пігулкі ад зямлітрасеньня“, якія ў справе іншай «санацыі» вырабляе ў сваей „сэкцыі“ калега п. Грабскага п. Тугутт.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Працэс 75 украінцаў і расейцаў у Луцку.

26/V у Луцку пачаўся вялікі працэс 75 украінцаў і расейцаў, абвінавачаных у дзяржаўнай здрадзе. Працэс працягнецца каля 3 тыдняў. Абвініцельны акт закідае ўсім „арганізацыю паўстаньня з мэтай адарваньня Валыншчыны ад Польшчы“ і гэтак далей, — вядомы шаблён усіх працэсаў беларускіх і украінскіх

### Паседжаньне „Крэсовай Сэкцыі“.

25/V адбылося паседжаньне „Крэсовай Сэкцыі“ Рады Міністраў пад старшынствам толькі што вярнуўшагася з „Крэсаў“ віцэ-прэм'ера Тугутта. Разглядалі справы школьныя і рэлігійныя нацыянальных меншасьцяў па ініцыятыве мін. Ст. Грабскага, але ня п. Тугутта.

Такжа разглядалі новы праек аграрнай рэформы для „Крэсаў“ новага міністра Родвана. Здаецца, адзін урадовы праект разглядаецца ў соймавай камісіі... А гэта—другі, асобны „для Крэсаў“—?!

### Новая камісія ў справе самаўрадаў.

Конвэнт сэньёраў Сойму пастанавіў стварыць новую камісію для апошнага разгляду праектаў самаўрадаў, бо цяперашняя як станула паўгода таму на мейсцы, упершыся ў „плюральнасьць“ (права мець па некалькі галасоў за „вынятковыя кваліфікацыі“, многа дзяцей (!), шчырую польскасьць і т. д.), так дагэтуль ня можа скрануцца з мейсца.

### Канфлікт у „жыдоўскім коле“ Сойму.

У выніку канфлікту з большасьцяй „жыдоўскага кола“ ў Сойме, з яго выступіў былы яго лідэр п. Грюнбаум, які на некалькі месяцаў выяжджае ў Палестыну.

### Замах на чэхаславацкае консульства ў Кракаве.

Нейкі Лех—кінуў бомбу ў чэхаславацкае консульства ў Кракаве, ды апрача таго забіў з рэвальвэра аднаго і раніў другога ўрадоўца консульства.

### Бэзрабоцьце ў Польшы.

Вялікая фабрыка „Ворта“ ў Чэнстахове закрываецца ад 1 чэрвеня.—900 работнікаў выкідаецца на вуліцу.

Там-ж фабрыка „Заводзьдзе“ зачынілася ад 20 траўня. 80 работнікаў пазбаўлены працы.

За апошні тыдзень зарэгістравана 175.510 безработных.

## Заграніцай.

### Новы ўрад у ССРР.

22/V адбылася першая сэсія нова-выбранага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ССРР.

Старшынямі выбраны—Калінін, Пятроўскі, Чэрнікоў, Музабэков, Атаков і Ходжаев. Сэкратаром застаўся Енукідзе. У прэзыдыум У В. К. выбраны 27 асоб, у тым ліку—Сталін, Каменев, Калінін, Томскі і інш. Адначасна адбыліся перавыбары Рады Народных Камісараў (міністраў) ССРР.

Прэм'ерам выбраны Рыков, яго заступнікі—Каменев і Цурупа, камісарам замежных спраў — Чычэрын, замежнай таргоўлі—Красін, унутранай таргоўлі—Шэйнман, фінансаў—Сокольнікоў, працы—Шмідт, пошты—Сьмірнов, ваенных і марскіх спраў—Фрунзэ, работніцка-сялянскай інспэкцыі—Куібышэв і чыгункі—Рудзутак.

### „Папраўкі“ для суседзяў Расеі.

На канфэрэнцыі ў справе таргоўлі аружжам на прапазіцыю Польшчы і Румыніі зроблены вельмі ветлівыя „папраўкі“ і „ўступкі“ з суровай забароны „тайнасьці“ куплі—прадажы аружжа для бедных суседзяў Расеі, якая нявэтліва адмовілася прымаць учасьце ў гэтай фальшывай наскрозь канфэрэнцыі...

Дык вынікам гэтай канфэрэнцыі будзе афіцыяльны дазвол—„тымчасова“ (на неабмяжованы час!) тайна павялічваць збраеньне ўсім суседзям Расеі...

Што-ж датычыць „вялікіх гэтага сьвету“, дык сама англійская прэса сцьвярдзіла нядаўна, што Англія разам з Францыяй прадавала масова аружжа паўстанцам у Гішпанскім Марокко, а цяпер францускае прэса (ўжо пасьля канфэрэнцыі) заяўляе, што і дагэтуль Англія дае аружжа і грошы тым-жа паўстанцам—ужо проці сваей „саюзьніцы“ Францыі...

### Белы тэрор у Баўгарыі.

„Даразныя“ суды ў Баўгарыі пякуць сваі крывавыя прысуды, як бліны.

Апошні прысуд проці арганізацыі ў Врацу 3 засудзіў на сьмерць, 14—на 12 гадоў катаргі, 6—на 8 гадоў. Апрача гэтага, засуджаныя маюць заплаціць яшчэ па 300.000 леваў (франкаў) кожны.

Ня дзіва, што, каб вясьці такую крывавую гаспадарку ў краю, баўгарскі ўрад патрабуе войска і прасіў ужо Антанту дазволіць яму павялічыць армію яшчэ на 10.000 жаўнераў, матывуючы гэта — пагражаючай яшчэ ўсьцяж „камуністычнай небясьпекай“.

### Пашыч і харваты.

Спадзяванае прымірэньне сэрбаў з харватамі, да якога ўжо зрабілі столькі крокаў харваты, ізноў сорвана Пашычам.

На сабраньні радыкальнай пыртыі яе правадыр і прэм'ер ураду Пашыч зрабіў даклад у харвацкай справе, у якім патрэбаваў—замест прымірэньня і супрацоўніцтва:—вострых судовых рэпрэсіяў проці ўсіх правадыроў харвацкай сялянскай партыі, „перадусім проці Радіча. Тактыка Пашыча зрабіла вельмі цяжкае ўражаньне ў-ва ўсім Краю — як у Сэрбіі, так і ў Харватыі.

### Ізноў крызіс ураду у Бэльгіі.

Бэльгія ніяк ня можа стварыць у сябе нейкага болей-меней сталага ўраду.

Толькі што зложаны ўрад Вандэрвівэра на першым-жа паседжаньні парляманту атрымаў выражэньне недаверыя—98 галасамі проці 73. Габінэт падаўся ў адстаўку. Тады кароль даручыў злажыць урад найменшай партыі лібэралаў. Правадыр лібэралаў, прэзыдэнт м. Бруссэля Макс згадзіўся спрабаваць шчасьця, заявіўшы, што яго габінэт будзе не парляманцкі, а фаховы.

### Дэ-Валера—прафэсарам матэматыкі.

Вядомы правадыр ірляндзкіх рэспубліканцаў-незалежнікаў, да-Валера, адмовіўся зусім ад палітычнай дзеяльнасьці, заняўшы катэдру матэматыкі ў унівэрсытэце.

### Сьмерць маршалка Фрэнча.

Памер вядомы англійскі генарал Фрэнч, адзін з герояў Вялікай Вайны,—абаронца м. Іпра.

### Трасеньне зямлі ў Японіі.

Новае страшэннае трасеньне зямлі ў Японіі трывала 3 мінуты. Згінула некалькі тысячаў людзей. Места Тай-Ко з 80.000 жыхароў зусім зруйнавана і спалена агнём, які выходзіў спад-зямлі! Зруйнаваны яшчэ два месты.

# Вайна у Марокко.

**19/V Парыж.** Апэрацыі на мароккскім тэатры вайны ўсё пашыраюцца. Тры галоўныя групы францускіх генаралаў—Колёмба, Фрэйданбэра і Гамбэ — трыумфуюць над паўстанцамі, як пішуць французы. Не падаюць толькі лічбы францускіх стратаў.

Але—„Абдул Керым гатуе новае наступленьне“ (!).

**20 Фэц.** Новыя падмогі францускім войскам супакоілі верныя Францыі плямёны.

Але пацьвярджаюцца чуткі аб тым, што ворагі далей зьбіраюць сілы і гатуюць агульную мабілізацыю сярод плямёнаў рыф і джэбала.

**22 Фэц.** Група ген. Шамбрэна ў цяжскім баі каля Айшы мела вялікі пасьпех, падняўшы павагу францускага імя.

Але—Абдул Керым загадаў — расстраляць усіх павадыроў тых плямёньняў, якія ўцяклі перад францускім войскам, усіх дэзэртыраў і марадэраў (рабаваўшых забітых)—у лічбе 400.

**23 Рабат.** Групы генаралаў Фрэйданбэра і Гамбэ ізнаў разьбілі Абдул Керыма.

Але... прадбачаць, што А. Керым... пачне новае наступленьне!

**23 Рабат.** Пацьвярджаецца вестка аб пасьпеху францускіх войскаў. А... Абдул Керым вядзе энэргічную акцыю на канцэнтрацыі сваіх сілаў і прапагандзе агульнай вайны проці Францыі“...

**25/V Парыж.** 6 францускім „плацовак“ пад націскам („разьбітах“) Рыфэнаў ачышчаны французамі—«дзеля большае свабоды рухаў францускіх войск“.

Група ген. Гамбэ („разьбіўшая“ Керыма) атры-

---

# Максім Багдановіч.

† 12/25 траўня 1917 г.

*(Успамін к 8 угодкам сьмерці).*

...„Бо ня тое сьведчыць мае сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары“...

*М. Багдановіч — „Вянок“.*

Мы, сухотнікі, ляжым у лесе амаль ня цэлымі днямі, карыстаючыся, паводле наказу санаторнага доктара, сонечнымі ваннамі; а трэба адзначыць — у паўночна-ўсходняй Чэхаславакіі, дзе знаходзіцца наша санаторыя, вяснавое сонца не занадта часты госьць.

Сярод пацыентаў розных нацыянальнасьцяў — беларусаў у нашай санаторыі знаходзіцца 6 (з агульнага ліку 50): гэта-ткі даволі вялікі працэнт, раўнуючы агульны лік беларускай эміграцыі ў Чэхаславакіі адносна эміграцыі інш. нацыянальнасьцяў. — Наагул трэба зазначыць, што сярод нашых студэнтаў у Чэхіі надзвычайна вялікі лік сухотнікаў: так дрэнна ўплывае нераўнамерны тутэйшы клімат на малады беларускі арганізм, якому змалку прыходзіцца прабіваць сабе дарогу ў жыцьці пры надзвычайна цяжкіх абставінах...

І вось, ляжучы сярод апаленых сонцам студэнтаў-землякоў, за тысячы кілёмэтраў ад дарагой нам усім Бацькаўшчыны, я ўспамінаю другую краіну, краіну азону і сонца—Крым і адно з пякнейшых яго курортных мейсц—Ялту. Я ўспамінаю гэтае цудоўнае па свайму клімату места, якое так утульна са ўсіх бакоў прыціснута да самога Чорнага мора ланцугом жывапісных Крымскіх гор, дзе ўжо даўно адцвілі паўднёвыя дрэвы: абрыкосы, пэрсікі, міндаль, айва і інш.; дзе сярод цудоўных садоў „Массандры“ ёсьць бэспадобныя па сваей пекнаце рожавыя аллеі, і дзе на вуліцах у свой час у траўні можна было на кожным рагу Ялты купіць за 5 кап. пучок дурманячых, як і сама вясна, цудоўных рожаў...

І сярод гэтай пышнай прыроды, сярод усяго, што так ярка і неадступна звала да жыцьця—паміраў ад сухот 8 гадоў таму назад адзін з лепшых будзіцеляў беларускага народу, 25-летні, але ўжо слаўны паэт-філёзаф вечнай памяці Максім Багдановіч. Паміраў тады, калі прачнулася да жыцьця ня толькі прырода, але такжа прачнулася да доўгачаканага радаснага жыцьця і новага будаўніцтва Бацькаўшчына песьняра, аб вызваленьні з рабства якой ён так лятуцеў:

...«Ня згасла сонца! сонца гляне,
Усіх падыйме ада сна.
Ён, гэты дзень, яшчэ настане, —
І ачуняе старана!..».

„Старана ачуняла“, але паэт-правідзец, які задоўга да рэвалюцыйных падзей 1917 г.—„пад яе зімовай маскай, пад сьнегам — бачыў твар вясны“, гэты падаючый такія вялікія надзеі пясьняр, убачыўшы прадсказаную ў сваіх вершах „вясну“, навекі заснуў, каб „бяз скаргі лягчы ў магілу!“...

Пры якіх варунках памёр М. Багдановіч? Аб гэтым я нічога нідзе ня чуў. Але мушу сказаць, што ў Ялце былі дрэнныя „звычаі“ ў прыватных дамах, якія бралі да сябе цяжкіх хворых (ня бралі гэткіх хворых да сябе лепшыя пансіоны, баючыся страціць сваіх кватарантаў). У маю быўнасьць у Ялце ў 1916 г. я ня раз чуў, што адзінокіх безнадзейна хворых часта абіралі гаспадыні пансіону, дрэнна іх кормячы і тым самым прысьпяшаючы іх сьмерць, пасьля якой звыкла самае цэннае з рэчаў кватаранта „прыліпала“ да рук гаспадыні.

Пры якіх-бы варунках паэт ні памёр, але апошнія яго перажываньні былі тым больш сумныя і трагічныя, што ён паміраў саўсім адзінокім, „здалёк ад роднай стараны“, аб якой ён так усё сваё кароткае жыцьцё лятуцеў, якую лічыў «надзеяй», „крыніцай жывой вады“, дзе ён толькі думаў „пазбыцца сваей нуды“ і дзе гатоў быў „загінуць бяз жалю“, цьвёрда веручы, што толькі „ня будзе цяжкай сыну свайму зямля“ радзімага краю...

---

Пазнаёміўся я з М. Багдановічам у восень 1916 г. у Менску ў „Беларускай Хатцы“ (на Захараўскай вул.), дзе ў тыя часы быў „Глаўны Беларускі Штаб“ і дзе ўсіх можна было бачыць, бо там адначасова мясьцілася і беларуская сталоўка.

Худы, высокі, трохі сутулаваты, вечна ў расхрыстаным студэнскім пальто, без усялякіх прэтэнзыяў у адзежы (большай часьцю насіў „касаваротку“ і зялёную студ. тужурку),—ён адразу зьвяртаў на сябе ўвагу бела-васковым тварам і, асабліва, сьветлымі бяздоннымі вачыма, глыбока пасаджанымі пад высокім і ясным лобам, над якім высілася капа валос. Калі ён глядзеў на вас, то здавалася, што ён вас саўсім ня бачыць, такі ў яго быў нейкі глыбокі,

мала новую падмогу, каб перашкодзіць ворагу заўладаць Кіффанам.

**25/V Парыж**. Штаб францускіх войск у Марокко заяўляе афіцыяльна, што першы пэрыад (?) ваенных апэрацыяў у Марокко закончаны з вялікім пасьпехам. Цяпер пачнецца другі, які мае мэтай ачысьціць францускую тэрыторыю ад ворагаў.

„Matin“ піша, што Францыя павінна, пасьля перамогі (?) заключыць **пачэсны мір** з Абдул Керымам, бо інакш—насяленьне франц. Марокко згіне з голаду, або—кожную вясну будзе выбухаць паўстаньне... У Марокко паслалі яшчэ трох генаралаў...

Вось, як выглядаюць весткі аб гэтай новай вайне—пасьля „апошняй“...

---

Англійская прэса піша, што вялікія пасьпехі францускіх войскаў вельмі... страшаць францускія палітычныя кругі, бо кошты гэтых „пасьпехаў“ вельмі цяжкія.—Паводле загранічных даных, французы страцілі ў апошнім баі больш за 1500 душ забітымі (ня лічучы раненых), шмат самалётаў і артылеры. Аб усіх гэтых коштах „перамогі“ і ахвярах францускі ўрад маўчыць.

---

Францускія камуністы паднялі энэргічную кампанію проці зацягнуўшайся імпэрыялістычнай вайны ўраду ў Марокко.

Міністар фінансаў Кайо падаў у парлямант прапазіцыю новага экстрэннага асыгнаваньня 3 міль-ярдаў франкаў—на выдаткі ў сувязі з вайной у Марокко.

У выніку новых крэдытаў на вайну пачаўся йзноў шпаркі ўпадак франка...

Запраўды—іронія лесу: Кайо, той — „адзіны“, які меў і здалеў-бы суровай ашчаднасьцяй правясьці „санацыю“ францускіх фінансаў, — сам змушаны да рэшты руйнаваць францускі франк,—бо мусіць друкаваць новыя паперкі...

**Дык навет перамога ў Афрыцы будзе паражэньнем Францыі ў Эўропе.** Але першая,— яшчэ зусім няпэўная; пэўнае толькі апошняе...

# Аб чым пішуць.

**Аб курсе злотага.**

Польскія газэты б'юць трывогу аб лёсе польскага злотага... Запраўды, запасы Польскага Банку таюць, як сьнег вясной. Апошні балянс Банку паказаў зьмяншэньне запасу на 16 мільёнаў злотых у працягу 10 дзён. Увесь запас валюты ў Банку ўпаў ніжэй 200 міліёнаў.

„Калі так пойдзе надалей, піша „Kur. Pozn.“, дык праз 4 месяцы гэты запас растаіць зусім, і тады—з гэткімі цяжарамі здабыты польскі злоты стане над краем пропасьці... Палажэньне вельмі паважнае... бо пагражае нам абвал усяго гмаху нашай фінансавай санацыі, якой мы так пышаемся і якая забясьпечавае (?), нам належнае становішча ў Эўропе“...

Добра, „забясьпечавае“—„на краю пропасьці“!..

А „Exspress Wilenski“ таксама дае ня менш сумную для „санацыі“ і „забясьпечанага становішча ў Эўропе‘ вестку: *Падаюць на біржы акцыі Польскага Банку...*

Сьпярша вінавацілі варшаўскіх „czarnogiełdziarzy“ (чытай жыдоў), але вось тыя-ж весткі йдуць ужо з усіх местаў Польшчы. Акцыі Польскага Банку кінуты на біржавы рынак—па 50 злотых за штуку... (замест 100!). Дык гэта-ж значыць, што гэтыя акцыі ўпалі на 50 прац.—на палову сваей вартасьці!?.. Так піша „Expr. Wil.“.

„Плян Дырэкцыі Банку, каб фінансавы быт гэтай установы быў абапёрты... на ахвярнасьці шырокіх слаёў (польскага) грамадзянства, цяпер развалі-ўся „z kretesem“!

Не памаглі ўсе засьцярогі проці перадачы другім асобам **іменных** акцыяў. — Яны скупляюцца за палову цаны банкірамі-капіталістамі, якія ў значнай меры будуць трымаць у сваіх руках лёсы польскага злотага...

Гэткага лёсу гэтых акцыяў, штучна разьмешчаных сярод „ахвярнага“, але голага польскага чыноўніцтва, можна было спадзявацца.

Цяпер, калі ўсіх гэтых бедных „патрыётаў“ прыцiснула пануючая ў Польшчы дарагоўля, дык пачалі яны масова выкідаць на рынак гэты „тавар“...

# ХРОНІКА.

× **Ліквідацыя беларускае школы і заняцьце ўладай Базыльянскіх муроў**. Як ужо ведама ўсім, у Вільні польская школьная ўлада зьліквідавала ўсе істнаваўшыя тут беларускія пачатковыя школы, апрача аднае, якая дагэтуль мясьцілася ў Базыльянскіх мурох (Вострабрамская 9). Зачыняліся школы або на тэй падставе, што ў іх ня было прадугледжанае лічбы вучняў ( а сколькі-ж гэта ёсьць польскіх школ на вёсках з 5 6 вучнямі!),—або дарогай „злучаньня“ дзьвюх школ з процілежных канцоў места, або ўрэшце „пераносам“ так далёка, каб дзеці не маглі туды хадзіць.

Апошні спосаб ужыты цяпер у адносінах да гэнае апошняе істнуючае школы: блізу з цэнтру места (пачатак Вострабрамскай!) школа пераносіцца за *некалькі вёрст*—у дом пры царкве на Новым Сьвеце, дзе праваслаўныя могілкі! Ясна, што гэтым крокам улада даб'ецца *адыходу зразу добрае палавіны вучняў*, а пасьля — з прычыны малое лічбы вучняў—*школа будзе аканчальна зьліквідавана*.

Але нашы „культуртрэгеры“ маюць на мэце ня толькі гэтую „прасьветную“ мэту: справа йдзе аб тое, каб, выкінуўшы з Базыльянаў школу, зьдзейсьніць лятуценьне п. Студніцкага: захапіць Базыльянскія муры пад дзяржаўны архіў. Прынамся ў звольненае пасьля сказанае пачаткавае школы памяшчэньне будзе перанесена частка архіву, які месьціцца пры Унівэрсытэцкай вуліцы, — а пасьля так ці йнакш будуць выкінуты і ўсе другія беларускія культурныя ўстановы, якія месьцяцца ў Базыльянах: гімназія, музэй, прытулак...

Характэрна ў гэтай справе тое, што *суд* дагэтуль *ня вынес прыгавору* ў справе прызнаньня Базыльянскіх муроў уласнасьцяй дзяржавы. Тымчасам *урад* ужо распараджаецца мурамі, як бясспрэчна сваімі, і *робіць вялізарныя затраты на пераноску часткі архіву*, як відаць, *маючы пэўнасьць, што суд прызнае правы дзяржавы на ўвесь той спорны гмах*, і можна будзе перанесьці туды і рэшту архіву...

Як-жа пасьля гэтага можна гаварыць аб *незалежнасьці суда*? Няўжо-ж улада не разумее, што такімі крокамі яна сама абніжае павагу суда і забівае веру ў яго аб'ектыўнасьць?

× **Бяспрыкладная гісторыя**. Нам прыходзіцца адзначыць перадчасную сьмерць чароднае беларускае газэты—„Беларускае Долі“. І ня тое важна, што зачынена беларуская часопісь, бараніўшая інтарэсы беларускага насяленьня ў Польшчы,—а важны абставіны, у якіх гэта сталася.

20-га траўня раньніцай у Рэдакцыю „Беларускае Долі“ ўвайшла паліцыя, якая па загаду камісара ўраду п. Вімбара сканфіскавала ўвесь наклад № 35 часопісі.

Пры гэтым паліцыя зрабіла **вобыск** у памяшчэньні Рэдакцыі. Прысутны пры гэтым Рэдактар А. Пракапеня быў арыштаваны і заведзены ў палітычную паліцыю дзеля дапросу. Тут нейкі **паліцэйскі агент кінуўся на Рэдактара і ўдэрыў яго** з славамі: „ach ty, bolszewiku, już 35-ty numer wydajesz?!“

Пасьля гэтага дзікага, бяспрыкладнага ўва ўсім культурным сьвеце зьдзеку над рэдактарам **легальнае** газэты, грам. Пракапеня быў звольнены.

Назаўтрае, у чацьвер 21 траўня, агент палітычнае паліцыі прынёс у Рэдакцыю „Бел. Долі“ павестку з вызавам ізноў у тую-ж установу. Аднак, пасьля пабіцьця напярэдадні, рэд. Пракапеня на вызаў не пайшоў.

У той-жа дзень п. камісар ураду **сканфіскаваў і № 36 „Бел. Долі“**.

У пятніцу, 22 траўня, каля палудня, у Рэдакцыю быў прынесены вызаў ужо да камісара ўраду—у той жа дзень на 1 гадзіну папалудні. Калі Рэдактар Пракапеня і туды не зьявіўся, каля гадз. 3 таго-ж дня п. камісар ураду прыслаў у Рэдакцыю

# Апошні верш М. Багдановіча.

Надовячы мінуў восьмы год ад дня сьмерці вялікага беларускага песьняра Максіма Багдановіча.

Пясьняр, хворы на сухоты, адзінока паміраў у Ялце. Відаць, адзіноцтва мучыла яго, але пацеху знаходзіў ён заўсёды ў сваіх думка-песьнях, што ўсьцяж зьвінелі ў яго вушох. З імі яму было добра і лёгка.

Багдановіч апошнія дні жыцьця не расставаўся з першым і дагэтуль адзіным томікам сваіх вершаў („Вянок“, Вільня, 19... г.). Гэтыя вершы, быццам водгукі мінуўшчыны, напалову спавітай ужо імглой аддаленьня, разьвявалі ягоную самоту. І на гэнай кніжачцы Багдановіч напісаў, здаецца, апошні свой вершык:

У белым доме, дзе я ўміраю,  
Над сінім морам, ля самай бухты,  
Я не самотны: я кнігу маю  
З друкарні пана Марціна Кухты.

Маленечкі вершык, маленькая кніжачка Багдановіча,—а сколькі ўспамінаў у іх для старых беларускіх працаўнікоў, для тых, што з такім трудом выпускалі адну за аднэй беларускія кніжачкі ў друкарні гэтага самага, так памятнага памершаму паэту, Марціна Кухты! Бадай ўсё, што друкавалася ў Вільні ад 1906 да 1918 году, друкавалася ў гэтай літоўскай друкарні, цяпер вывезенай у Коўну. І Багдановіч ведаў аб гэтым, і затым томік „Вянка“, незалежна ад свайго зьместу, так многа напамінаў яму з часоў даваенных, калі паэт першы раз папаў у родную Беларусь—у сэрце яе, Вільню.... **А. Н.**

---

ўнутраны пагляд. Гаварыў заўсёды ціха і мала. Я склонны думаць, што М. Б. куды больш-бы пражыў, каб ён больш зьвяртаў увагі на сябе і сваё здароўе. Прыпадкам я з ім жыў на адным панадворку па Мала-Георгіеўскай вул., дом № 12 (ён тады жыў у З. Бядулі). Я ня раз заходзіўся да яго (трэба адзначыць, што ён быў надта маўклівы, замкнуты ў самым сабе, і з ім было дзеля гэтага досьць цяжка гутарыць); бачучы развал і непарадак у яго пакою, а таксама, ведаючы, што ён часта не даядае і не глядзіць за сабой, калі гэта лёгка можна зрабіць і калі ёсьць што есьці (бывала так, што і ня было чаго есьці),—я, звыкла, пачынаў размову на гэту тэму і ўсягды атрымоўваў адзін і той самы характэрны адказ: „Чаму гэта васана больш мусіць цікавіць такое глупства, чым мяне самога?!“. Калі я, будучы ўжо ў той час сухотнікам і добра ведаючы, да чаго гэта можа прывясьці, — ня ўступаў, то ён рабіўся такім няпрыемна-зімным, што далей на гэту тэму ня было ніякае ахвоты гутарыць. М. Б. дужа ахвотна гутарыў аб паэзіі і аб апрацаваньні вершаў. Я разглядаў яго некаторыя заметкі, дзе ён старанна „правяраў матэматыкай“, як пушкінскі Салвёры, свае вершы-музыку; цікавіўшыя яго вершы інш. аўтараў ён тут-жа на кніжцы размяраў на стапы і правяраў іх па ўсіх правілах вершаваньня. Чытаючы верш М. Б. „Песьняру“, я ўсягды прыпамінаю гэту цярплівую „анатомію“ над вершамі, усе гэтыя значкі, рыскі і разьдзелы, якія мне ў свой час паэт паказываў і раз'ясьняў: „Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, абрабіць яго трэба з цярпеньнем!“...

Каб як колечы жыць, паэт, ня гледзячы на ўсе свае нахілы ў бок нацыянальна-культурнай творчасьці і ня гледзячы на сваё занадта кволае здароўе, — прымушаны быў дзеля куска хлеба займаецца нудкай, падрываючай апошнія сілы канцылярскай працай у земскай статыстыцы. Але і гэтая штодзенная мардуючая работа не магла паэта ўдзержыць дома, дзе былі яму так патрэбны спакой і атдуха: ён стараўся быць на ўсіх паседжаньнях, сходках, дзе прыймаў усягды чынны ўдзел.

Калі яго адгаварывалі ад гэтага, кажучы, каб ён больш глядзеў за сваім здароўем, то ён так востра адказываў на гэта, што адбіваў усялякую ахвоту на гэту тэму з ім гутарыць.

У найбольшым зьвязку і дружбе быў Багдановіч з А. Смолічам, які, думаю, мог-бы многа цікавага расказаць аб апошніх настроях і думках паэта перад ад'ездам яго да Ялты, куды, трэба сказаць, яго амаль ня сілком атправілі лячыцца, бо паэт, як-бы прадчуваючы там страшны канец, пад усялякімі відамі ўхіляўся ад падарожы. Засталося ў маей памяці спатканьне ўсей менскай невялічкай калёніяй новага 1917 г.; разам з усімі быў і паважаны М. Б. Гаварылі многа, дзяліліся надзеямі і пастанавілі абавязкова з гэтага новага году выдаваць беларускую часопісь, пры чым тут-жа адразу пусьцілі сярод гасьцей падпісны ліст. Усе падпісываліся па меры сілаў сваіх. Была ў паэта адна затаённая туга, якая ад часу-да-часу прарывалася. М. Б. часамі заходзіўся да нас (я жыў тады ў П. Аляксюка, які ў той час быў шчырым беларусам і не здалеў яшчэ праявіць сябе авантурыстам). Быў у Аляксюка сынок гадоў 5—6, хлопчык разумны і забаўны; і вось з гэтым дзіцём асабліва любіў забаўляцца і гутарыць вечнай памяці М. Б. І часам, як-бы ні да кога не зьвяртаючыся, паэт з сумам ціха казаў: „Няўжо-ж я ня маю права мець такога мілага сынка?!.. а я так люблю дзяцей!.. Няўжо-ж я не магу падыйсьці да падабаючайся мне дзяўчыны і пераканаць яе, што дзеці — найвялікшая радасьць на сьвеце, надзеі на выкананьне таго, што мы самі не здалелі выканаць!“.

І часта, надта часта варочаўся пясьняр да сумнай для яго тэмы...

Жорсткі лёс судзіў М. Б. „зьгінуць“ на далёкай чужыне.

Я чытаў у газэтах, што Беларускі Радавы Урад асыгнаваў пэўны лік грошаў на прывядзеньне ў парадак магілкі слаўнага беларускага пясьняра ў Ялце. Рэч бязумоўна добрая!

Але доўг беларускі ня будзе выкананы перад нацыянальным паэтам-філёзафам да канца, пакуль ня будзе выпаўнены яго тастамэнт сьмерці:

...„Там хоць у гліне, хоць у брудзе,  
Там пад зямлёй  
Знайдуць мае слабыя грудзі  
Сабе спакой“...

Вось, гэты „спакой“ радзімага краю беларускі народ павінен свайму незабвеннаму песьняру калі-небудзь даць!

**Л. З—ц.**

Санаторыя ў „Будах“,  
Чэхаславакія, 11/V 1925 г.

„Бел. Долі“ паведамленьне, што **з прычыны няяўкі рэд. Пракапені часопісь яго прыпынена**.

Характэрна, што агент паліт. паліцыі, які прынёсіў павестку назаўтрае пасьля пабіцьця рэд. Пракапені, цераз пару дзён зьявіўся ў Рэдакцыю „Бел. Долі“ і патрэбаваў **аддаць яму гэную павестку назад**....

Справай заняліся беларускія дэпутаты, якія зробяць адпаведнае выступленьне на соймавым грунце.

⨯ **Друкуецца і хутка выйдзе № 4 „Студэнцкай Думкі“**—Дзеля таго, што выйдзе ў невялікім ліку экзэмпляраў, рэдакцыя просіць усіх жадаючых мець гэты № выпісываць яго загадзя.

⨯ **„Сялянская Воля“**. Пад такім шумным загалоўкам у Баранавічах выйшаў № 1 непэрыадычнае газэткі-лістоўкі, ад якое надта-ж ужо пахнець дэфэнзыўным духам. Газэта друкуе брахню аб плебісцыце ў Жодзішкай парафіі, захопліваецца „дабрадзействамі“ баранавіцкага старосты для беларускага насяленьня і бароне найміта польскае кулацкае партыі „пястоўцаў“, нейкага Цяўлоўскага, які разам з п. Вітосам выступаў у Баранавічах на мітынгу і славіў лёс беларусаў пад Польшчай...

Кірунак газэткі лішне ясны, каб аб ей балей гаварыць. Дзіўна толькі, што выдаўцы яе неяк ня могуць пагадзіцца з Павлюкевічаўскай бандай!

⨯ **Рэформы ў Віленскай Беларускай Гімназіі.** У нядзелю 17 траўня адбылося паседжаньне Бел. Школ. Рады. Абгаварывалі справы рэформы ў Бел. Гімн. у Вільні.

Гімназія будзе выглядаць так: будзе аснаўных кляс 7; 8-я-ж кляса будзе двайная: у аднэй будуць вучыцца на вучыцялёў, а ў другой будуць прыгатоўваць да казённай матуры.

— На новы 1925—26 школьны год запрошаны ў Гімназію выкладаць быўшыя праф.: з матэматыкі п. Ант. Трэпка і з беларускае літэратуры — п. Ант. Луцкевіч.

⨯ **З жыцьця школы**. Сьледам за панурай крывавай трагедыяй у польскай гімназіі ім. Лелевэля ў Вільні польская прэса адзначыла цэлы рад выпадкаў самагубства сярод школьнае моладзі. Галоўная прычына гэтага—страх перад „рэзаньнем“ іх на матуральных экзаменах у сувязі з атручанай атмасфэрай у польскіх гімназіях наагул.

Абурэньне польскага грамадзянства школьнай палітыкай віленскага куратарыуму ў канцы канцоў зрабіла тое, чаго не маглі зрабіць усе дасюлешнія скандальныя гісторыі (зладзействы і т. п.) на „фальварку“ п. Гонсёровскага: гэтага пана міністэрства ўрэшце забірае ад нас і мае „ашчасьлівіць“ яго асобай г. Люблін.

У сувязі з гэтым „Słowo“ піша, што гэта нічога не паможа, бо на мейсцы ў Вільні астаецца фактычны галоўны кіраўнік школьнае палітыкі ў Віленскім вокрузе, п. Сьвідэрскі, запраўдны „куратар над куратарам“, на сумленьні якога ляжаць усе страшныя падзеі ў польскіх школах за апошнія часы. Прынамся гэнаму пану йшчэ ніхто адстаўкі ня даў і ад абавязкаў ня ўхіліў....

⨯ **Яшчэ школьная ахвяра**. Яшчэ адна ахвяра польскай школы ў Вільні: скончыў жыцьцё самагубствам вучань гімназіі Зыгмунта Аўгуста Мурза-Мурзіч, сын віцэ-старшыні Віленскага Акружнага Суда—мянчука, татарына, які ў Менску некалі быў «расейцам», цяпер—наскрозь шчыры „паляк“.

⨯ **Крах польскага тэатру ў Горадні**. Пасьля цэлага раду скандалаў—мардабіцьцяў, надужыцьцяў—растратаў і іншых праяваў нашэльнікаў вышэйшай артыстычнай культуры на «Крэсах», — мястовы тэатр у Горадні ўжо некалькі тыдняў стаіць закрыты. Толькі па суботам іграе ў ім — «у Крэсавым польскім месьце», як патэтычна піша «Robotnik», — жыдоўская апэрэтка...

Не вядуцца нешта польскія тэатры на «Крэсах»,—памірае хранічна бяз публікі польскі тэатр у Вільні—стаіць зачынены ў Горадні...

⨯ **«Пара гнедых»**. «Доктар» Павлюкевіч і «спэцыяліст» ад Касы Хворых Макар Косьцевіч мелі шчасьце «представляться» пану міністру асьветы, Ст. Грабскаму. Пан міністар, родны бацька «языковых законаў», якіх цяпер ніхто ня зьбіраецца выпаўняць, многа гаварыў аб сваей «ляяльнасьці» да дамаганьняў беларускага народу ў справе роднае школы. Ды, мусіць, уся гэная «Прасьвета» з Косьцевічамі і Павлюкевічамі на тое і атрымлівае, скуль трэба, «на чай», каб выслухіваць гэтыя абяцанкі і... рабіць перад Эўропай від, быццам беларусы вераць усяму гэтаму!

А тымчасам беларускіх вучыцельскіх курсаў няма, і ў сёлетнім годзе няма надзеі на адкрыцьце беларускіх урадавых школ, вымаганых народам, бо... нашых вучыцялёў урад прымаць ня будзе, а «сваіх» не ўзгадаваў...

⨯ **Беларуская лекцыя**. Беларускі Студэнцкі Саюз ладзіць у гэту нядзелю, 31 траўня, чародную публічную лекцыю. Чытаць будзе грам. Дубіцкая на тэму: „Сацыялізм і каапэрацыя“.

Лекцыя адбудзецца ў салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9) у 4 гадз. папал. Уваход вольны для ўсіх і бясплатны.

⨯ **Асаднікі ў Віленшчыне.** „Gaz. Por.“ 17.IV піша, што ў Віленшчыне лічыцца 869 асаднікаў, у тым ліку на абшары быўшае Сярэдняе Літвы — 263 (у Віленска-Троцкім павеце—165, у Сьвянцянскім — 36, Ашмянскім—41, Браслаўскім — 21), у „калідорных“ паветах—606 (у Вялейскім павеце—183, Дунілавіцкім—120 і Дзісьненскім—303). Разам з сем'ямі гэта складае каля 2000—3000 чалавек.

⨯ **Лёс Навагрadзкага ваяводзтва**. Газэты паведамляюць, што на паседжаньні «Крэсавае сэкцыі» ўраду пастаноўлена аканчальна пакінуць самастойным, як дагэтуль, Наваградзкае ваяводзтва.

У Віленскім Окрузе пастаноўлена зрабіць новы павет Маладэчанскі і пашырыць абшар Троцкага.

⨯ **Пажары лясоў**. У лясьніцтве Баровіна, Дзісьненскага павету, спалілася 12 дзесяцін у маёнтку Праселкавічы абшарніка Гарынеўскага.

⨯ **Павялічэньне платы за праезд чыгункай**. Урад маніцца ад 1 чэрвеня падвысіць на 25% (на 1/4 цяперашняй цаны) плату за чыгунковыя білеты; адначасна скінуць з цаны за правоз тавараў — на вываз заграніцу...

«Robotnik» аблічыў, што страту ад гэтае льготы прамыслоўцам і абшарнікам павінен будзе папоўніць дзяржаўнаму скарбу «пасажыр 3-й клясы», на якога ўрад гэткім чынам накладае новы падатак у ліку 35 мілёнаў злотых, бо як раз пасажыр III клясы дае вялізарную частку ўсяго даходу з чыгункі — 250 мілёнаў, тады, калі з I і II клясы скарб мае толькі 40 мілёнаў.

# Карэспандэнцыі.

### Беларускі спэктакль у м. Радашковічы, Вялейскага павету.

10-га траўня г. г. вучні Радашкоўскай Бел. Гімназіі на чале і з учасьцем вучыцеля Я. Гаўрыліка зладзілі беларускі спэктакль. Былі згуляны дзьве п'есы А. Чэхава ў перакладзе на беларускую мову: «Сватаньне» і „Мядзьведзь“. З вучняў найлепей правяла сваю роль Наталкі вуч-ца VII клясы Г. Куніцкая, Я. Доўнар, вуч. VIII кл. (Ламака) і Ал. Гаўрылікавічанка вуч-ца VII (Папова), таксама не пакінулі ў сваей гульні жадаць нічога лепшага. Сам рэжысэр п. Гаўрылік, калі можна сказаць, што занадта праймаўся трагічнымі мамэнтамі ў ролі Чыбука, дык другую роль Сьмірнова правёў пэўна і дасканальна. Пасьля згуляньня п'есаў, пяяў гімназіяльны хор, які прывёў слухальнікаў у нязвычайнае захопленьне. Саля, перапоўненая рознаю публікай, маўчала, як адзін чалавек, слухаючы магутныя стройныя зыкі маладых галасоў. Публіка горача дзякавала пеўчым апладысмэнтамі і толькі крыўдзілася на тое, што хор паскупіўся на песьні. Закончыўся вечар агульнымі танцамі пад добрую вясковую музыку.

Трэба адзначыць, што гэта быў першы гімназіяльны спэктакль у бягучым вучэбным годзе. У прошлых двух гадох гімназісты часта балавалі тутэйшую моладзь сваімі забавамі. Сёлета-ж з прычыны недастачы сваей уласнай сцэны і адпаведнага для вялікага збору людзей памешканьня, у гімназіі адбываюцца больш вечары закрытыя, сямейныя. Хаця некаторыя з іх (напр.: вечар сцэнізаванай польска-беларуска-нямецкай дэклямацыі і багатае адсьвяткаваньне Скарынаўскага юбілею) можна было-б паказаць на любой сцэне.

На заканчэньне гэтага году вучні, думаюць зладзіць яшчэ адзін спэктакль 20-га чэрвеня.

Б.

**З Слонімшчыны**. У вёсцы Яцукох, Дзятлаўскае гміны, арыштаваны сяляне Юльян і Паўла Шумскія.

**З Лідчыны.** З Дакудаўскае гміны пішуць, што тамака гмінная ўлада не рассылала сялянам паведамленьняў, сколькі трэ' плаціць грунтовага падатку ў 1924 і 1925 г. г., а цяпер, калі сяляне даелі леташнія запасы і ўсе ў полі, войт гміны Рэхва езьдзіць з сваім сэкрэтаром і паліцыяй па вёсках і забіраюць дабро з сялянскіх хат: падушкі, вопраткі, палаткі і ўсё іншае. Сяляне наракаюць на войта, што зумысьля не паведамляў ці то праз злосьць да беларускіх сялян (якіх ён ненавідзіць, хоць іх хлеб есьць!), ці мо' з нейкай укрытай злоснай мэтай...

З сяла **Груздава** пішуць, што тамака нехта ўкраў грошы, сабраныя на царкву.

# Беларусы у Эстоніі.

### Культурныя пачынаньні.

*Ад нашага карэспандэнта.*

Нядаўна ў сталіцу Эстоніі, Тальлін (Рэваль), прыехала з Бэрліну А. Душэўская, якая скончыла ў Бэрліне кансэрваторыю (сьпеў) і цяпер маніцца ехаць у Менск, каб тамака з'арганізаваць беларускі хор, які мог-бы паехаць у Заходнюю Эўропу, каб тамака выступіць на канцэртах і знаёміць Захад з беларускай песьняй. Запраўды-ж: у Заходняй Эўропе выступаюць хоры вялікарускі, украінскі, грузінскі, вэнгерскі і навет хор нэграў, — а аб беларускім ніхто й ня чуў. Душэўская праектавала з'арганізаваць такі хор у Вільні, толькі-ж польская ўлада не дазволіла ей прыехаць у свой родны горад затым, што яна выехала ў Бэрлін у часе панаваньня ў Вільні літвіноў і, зразумелая рэч, з літоўскім пашпартам.

Грам. Душэўская пераклала на беларускую мову многа чужаземных опэр і песень.

**Мікола Чарвякоў.**

# Змаганьне за родную школу.

## Сьпіс

**школьных абводаў, у якіх жыхары склалі дэклярацыі аб жаданьні беларускай школы.**

**Ваўкавыскі пав.** Ізабелінская гм., «5» шк. абв.—вёскі Малая Лапеніца, Мітроні і Каменіца.

**Вялейскі пав.** Маладэчанская гм., «14» шк. абв.—в. Мойсічы.

**Горадзенскі пав.** Галынская гм., „12“ шк. абв.—в. Вялікія Озераны, Крынская гм.: «13» шк. абв.—в. Сальнікі; Малая-Бераставіцкая гм.: „14“ шк. абв.—в. Падбагонікі; «15» шк. абв.—в. Пыхаўчыцы.

**Дзьсьненскі пав.** «13» шк. абв.—места Глыбокае; Іодзкая гм., „14“ шк. абв.—в. Сьнегава, 15 шк. абв.—в. Цецеркі; 16 шк. абв.—Шаўлянскі, «17» шк. абв.—Барадзеніцкі; Нова-Пагостская гм.: „18“ шк. абв.—Баравы; Перабрадзкая гм.: «19» шк. абв. в. Сабалеўшчына; „20» шк. абв.—в. Кляўсы.

**Дунілавіцкі пав.** Мядзельская гм.: «6» шк абв.—в. Калінаўка.

**Лідзкі пав.** Ганчарская гм.: „2“ шк. абв. — в. Селец.

**Косаўскі** пав. Борка-Гічыцкая гм.: „24“ шк. абв.—в. Пастарыні; Косаўская гм.: „25“ шк. абв.— в. Міханавічы.

**Лунінецкі пав.** Заастравецкая гм.: «1» шк. абв.—в. Камлеўшчына, Падзеры.

**Наваградзі пав.** Ярэміцкая гм.: 10 шк. абв.— м-ко Ярэмічы і вёскі: Быкавічы, Малая і Вялікая Вобрына і Баўцічы; 11 шк. абв.—м-ко Турэц; Любчанская гм.: 12 шк. абв.—в. Вялікая-Слабада, 13 шк. абв.—в. Тарасавічы і Валетава, 14 шк. абв. — в. Пагарэлка, Цырынская гм.: 15 шк. абв.—в. Ваўкарэзі, Плянты і Хадасы, 16 шк. абв.—в. Вераскава, Харашэва. Гэудныя і Еўсевічы, 17 шк. абв. — в. Любанічы; Карэліцкая гм.: 18 шк. абв.—в. Баяры, 19 шк. абв. — в. Новыя і Горныя Рудкавічы; Папапаўская гм.: 20 шк. абв.—в. Запольле і Лясок Уселюбская гм.: 21 шк. абв.—в. Кабыльнікі, 22 шк абв. — в. Здановічы; Гарадэчанская гм.: 23 шк абв. — в. Рэцэмля; Гарадыская гм.: 24 шк. абв. — в. Някутычы; 25 шк. абв.—в. Кісялі; Кашалёўская гм.: 26 шк. абв. — в. Сёмкава; Райчанская гм.: 27 шк. абв.—в. Воўцы, Ваколіцы Воўцы і Лукашына.

**Нясьвіжскі пав.** Клецкая гм.: 10 шк. абв.—в. Бабаевічы; Сіняўская гм.: 11 шк. абв. — в. Дунайчыцы; Ланьская гм.: 12 шк. абв.—в. Касмовічы.

**Пружанскі пав.** Селецкая гм.: 27 шк. абв. — в. Асаўцы і Аніцавічы.

**Слонімскі пав.** Міжавіцкая гм.: 15 шк. абв.— в. Мыслава.

**Усяго ў Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радзе зарэгістравана 177 школьных абводаў.**





Выдавец М. Германовіч.

Друкарня Б. Клецкіна, Вільня, Мала-Сьцяпанаўская, 23.